

# Ветразь надзеі

№4, лістапад 2002 года

Газета Слонімскай суполкі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

**1-2 лістапада ў Гародні прайшла абласная дзіцячая канферэнцыя «Будуем сет прыдатны для жыцця дзяцей». На ёй прысутнічаў член гуртка «Ветразь надзеі» Верамейчык Мікалай. Коля выступіў на канферэнцыі з падрыхтаваным дамашнім заданнем, дзе расказаў аб справах гуртка і іншых дзіцячых ініцыятывах нашага горада.**

## У ЖЫРОВІЧАХ НА СУСТРЭЧЫ З ПАЭТАМ-ІНАКАМ ЗЬНІЧАМ

Калі мы завіталі ў Жыровіцкую семінарыю, брат Мікалай (Зьніч) запрасіў нас у актавую залу. Мы правялі цікавую сустрэчу: чыталі вершы, спявалі песні, а таксама пазнаёміліся з правіламі манастыра. Пасля сустрэчы брат Мікалай запрасіў нас у трапезную (сталовую). Мы трапілі на посны дзень (там посныя дні серада і пятніца). Нас частавалі супам і кашай.

Перад трапезнай мы хадзілі да іконы Жыровіцкай Божай Маці. Мы пазналі многа цікавага, там нам спадабалася. На развітанне брат Мікалай сказаў: «Можна застацца на некалькі дзён у манастыры». Гэта для нас было запрашэнне на будучае. Дзякуючы Таццяне Уладзіміраўне, мы пазнаёміліся з добрым чалавекам.

**Сашко Паша**

## Я сустрэўся з Купалам

Купала са мною аднойчы быў,
З Купалам у сне я тады гаварыў,
Яму я пра Слонім усё расказаў,
Яму я наш горад увесь паказаў.

Па вуліцах нашых мы разам ішлі
І вуліцу Янкі Купалы знайшлі.
Блукалі, ходзлі мы з ім давідна,
Купалава зорка ў сэрцы была.

**Грыпіч Косця,**
**Бараноўскі Аляксей,**
**Лукашэвіч Андрэй**

## Душа народа

Аднойчы мне ў душу запала
(Такім я бачыў гэты свет),
Дзе боль і жаль, пяшчота грала
І жахам гора забаўляла;

— Чаму не верыць мой народ
У сілу Бога, а — у бруд,
У сілу нечысці? Чаму?
І хоць народ перажывае,
Надзеі зорку ён трымае.

**Дуброўскі Паша**

***Паша ДУБРОЎСКІ***

## ЯНКА КУПАЛА

Калісьці на нашай зямлі
Жыў паэт тут адзін
Па прозвішчы родным званы —
Янкам Купалам.

У фальварку Вязынка,
Вілейскі раён,
Нарадзіўся ён.
І звалі яго Янка.

Бяларуцкае вучылішча закончыў,
Ён у Вільні пабываў,
«Нашай нівы» супрацоўнікам ён стаў.
Першы зборнік напісаў,
«Жалейкаю» назваў.

З верша «Мужык» ён пачаў,
Затым «Курган», «Гусляр»,
«Бандароўну»,
«Раскіданае гняздо», «Паўлінку»
напісаў.
Які паэт і патрыёт тут жыў!
З чыстым сэрцам і душой ён быў!

***Паша САШКО***

## КУПАЛА ЖЫВЕ

Купалу, паэта, мы запрашалі,
У хаце маленькай яго частавалі.
Ён жыў небагата,
Памёр ён трагічна,
Ды жыць будзе вечна
У сэрцы ў брата.
Ён жыў каля рэчкі,
У добрым мястэчку,
Ля светлых бароў
І зялёных лугоў.
У сэрцах людзей ён заўсёды жыве,
І вершы народу заўжды ён нясе.

***Андрэй ЛУКАШЭВІЧ***

## ВЕРШ ПРА СЛОНІМ

Дарагі наш Слонім!
Мы цябе заслонім.
Маё сэрца
Моцна тут заб'ецца.

Зазвінелі Шчары хвалі,
Жаваронкі заспявалі!
Многа ў мяне шляхоў,
Ды вяртаюся дамоў.

Вельмі доўгія дарогі,
Паняслiся мае ногі
Па шляхах маёй зямлі.
Край мой родны, дарагі!



**З уласнымі песнямі выступае Алесь Пасько**

*Паша ДУБРОЎСКІ*

## СЛОНІМ – ГОРАД ПРЫГАЖОСЦІ

Слонім — горад прыгажосці,
Да яго прыеду ў госці,
Там расце зялёны сад,
Ён, адзіны, стрэчы рад.

Сад глядзіць зялёным вокам,
Вецер лашчыцца ля вокан,
Голуб белы ў вышыні,
Елка ў садзе пры акне.

Я пайду ў той сад хворы,
Стану я ізноў вясёлы,
Тут і хата, і сям'я,
Тут радзімачка мая.



**Зьніч (Алег Бембель) распавядае пра жыццё ў манастыры**

*ЗЬНІЧ (Алег БЕМБЕЛЬ)*

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ !

*Жыве Беларусь, жыве!*
*І ў Польшчы і ў Нямеччыне,*
*Паўсюдна, дзе дух чалавечы*
*Ратуецца ў царкве,*
*Жыве Беларусь, жыве!*
*Жыве Беларусь, жыве!*
*І ў Бельгіі і ў Ангельшчыне,*
*Паўсюдна, дзе памяць вечная*
*Схіляецца ў журбе.*
*Жыве Беларусь, жыве!*
*Жыве Беларусь, жыве!*
*Ў Амерыцы і ў Аўстраліі,*
*Паўсюдна, дзе з смерці паўсталі,*
*Хто не забыў сябе.*
*Жыве Беларусь, жыве!*
*Жыве Беларусь, жыве!*
*І ў Піцеры і ў Маскве,*
*Ў Сібіры і ў Кітаі,*
*З нябыту яна ўваскрасае.*
*Жыве Беларусь, жыве!*
*Ля сэрцаў сляпых і глухіх,*
*Крывавячы губы і скроні,*
*Лятуць і лятуць тыя коні*
*Па гонях сваіх і чужых,*
*Лунаюць бель - чырвань - і бель*
*У золаце і блакіце,*
*То — нібыта золак у жыце —*
*Ўзыходзіць Царквы карабель.*
*У сэрцы і галаве,*
*Дзе цені шаленства і гордасць,*
*Жыве Падабенства і Вобраз.*
*Жыве Беларусь, жыве!*

# Таццяна Трафімчык

## Да 120-годдзя Я. Коласа і Я. Купалы

ЧЫТАЮЧЫ Ў ЦЯГНІКУ ЎГОЛАС ПАЭМУ Я. КОЛАСА

## «НОВАЯ ЗЯМЛЯ»

Нас вабяць жывыя малюнкі лясоў,
На хвалях травы святаннік зацвёў,
Ў духмяныя травы цягнік наш нырнуў,
А потым зямлю калыхнуў і рвануў
Вагоны ў прасторы краіны маёй,
Пакутна душа набрыняла крывёй.
Чужынцы, чужынцы навокал сядзяць,
Манкурты, што мову не хочуць і знаць.
Мае землякі і адное крыві,
То дзеці радзімай крывіцкай зямлі.
Чаму ж непрыхільна глядзяць на мяне
І кажуць спыніцца маёй гамане?!
Кажу да суседкі на мове зямлі,
Што тут захавала мае карані.
Чытаю з паэмы я гімны радкоў,
Што славяць абшары палёў і лясоў,
Ды лямант раздаўся ў вагоне ізноў,
Каб я не ўжывала радзімых мне слоў.
Маўчу, бо трываю, прывыкла цярпець:
Мне трэба раптоўна душой загавець,
Ды можна ўваскрэснуць, калі прыйшла смерць!
Да неба звярнула я погляд вачэй:
— Хрыстос, ты пакутаваў, і мне не лягчэй
Памерці й ўваскрэснуць у мове маёй.
Да Бога звяртаюся — ён цудадзей.
Пасею жалобу і мноства надзей,
З жалобы — цярпенне, з цярпення — досвед.
— Ты мудра глядзі на павернуты свет,
Пакуты зямлі ў сябе ўбяры,
Ратуй чалавецтва крывёй за грахі!

Ветраэь
надзеі
**Рэдакцыйная калегія:** Трафімчык Т. **Набор, дызайн і вёрстка:** Алег ШЭЛЕСТАЎ
**Адрас:** 231800, г.Слонім, вул.Брэсцкая, 103/1, кв.61
***Нумар звёрстаны і выдадзены пры тэхнічнай падтрымцы ТМА «ВЯТРАК».***
Распаўсюджваецца бясплатна.